ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

№ 2 (123) 2018




## Анатоль Санаценка:

***«Сучасны журналіст мусіць не толькі аператыўна напісаць добры тэкст, але і зрабіць фотарэпартаж з месца падзеі, зняць відэа. Усё гэта стварае новыя выклікі»***

# Штрафы журналістам паводле артыкула 22.9

Колькасць штрафаў за кожны месяц з 2014 года




Небяспечныя для незалежных журналістаў гарады




Крыніцы: «Беларуская асацыяцыя журналістаў», «Рэпарцёры без межаў»







***«Падчас падарожжа па рацэ мы з Алегам навучыліся грэсці задам наперад і ўваходзіць у паварот па ўнутраным радыусе. А таксама адпрацавалі некалькі складаных манёўраў – байдарачны дрыфт і вытанчанае слізгаценне ўздоўж кустоў».***







***Нягледзячы на тое, што спробы незаконна абмежаваць доступ журналістаў да інфармацыі сустракаюцца ў сучасных беларускіх рэаліях практычна паўсюдна, далёка не заўсёды да іх прыцягваецца ўвага грамадскасці.***



***«Вось пакуль мы гэтай цяжкай дарогай, якую выбралі самі, не пройдзем, мой раман, гісторыі, што ў ім распавядаюцца, на жаль, будуць заставацца актуальнымі».***



ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

**№ 2 (123) 2018**

**Выдавец:** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
Перыядычнасць: 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.

**Галоўны рэдактар**
Уладзімір Барысавіч Дзюба

На вокладках скарыстаныя фота В. Масаловіча і А. Зянкова.

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.
Падпісана да друку 16.07.2018.
Дата выхаду 30.07.2018.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,0
Наклад 300 асобнікаў.
Замова № .
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/142 ад 09.01.2014, № 2/34 ад 23.12.2013.
Распаўсюджваецца бясплатна.

**Адрас рэдакцыі:**
**220004, г. Мінск,**
**вул. Кальварыйская, 16-265.**
**Тэл.: (029) 126-70-98**
**E-mail: abajur@baj.by,**
**baj@baj.by**
**Сайт: www.baj.by**

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782
ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10,
(017) 203-53-41,
(029) 623-74-10
www.medisont.by

# Изменения в пределах КЛЕТКИ

**Свершилось то, чего профессиональное журналистское сообщество ожидало с тревогой и… тайной надеждой. 29 июня 2018 года Совет Республики Палаты представителей одобрил изменения и дополнения в Закон «О средствах массовой информации». Законопроект был подготовлен Советом Министров Республики Беларусь.**



**Олег АГЕЕВ, юрист**

## Обсуждение и принятие

В 2017–2018 годах Белорусская ассоциация журналистов несколько раз обращалась в Министерство информации с просьбой рассказать, какие изменения готовятся в медиазаконодательстве. Нам или вовсе не отвечали, или сообщали, что изменения не планируются.

Но в первых числах апреля Белорусская ассоциация журналистов получила из Палаты представителей Национального собрания проект Закона Республики Беларусь «О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь». Большая часть поправок касалась именно Закона «О средствах массовой информации».

Мы подготовили замечания и предложения к этому документу и направили в Постоянную комиссию по правам человека, национальным отношениям и средствам массовой информации Палаты представителей. ОО «БАЖ» предлагал коренным образом пересмотреть регулирование деятельности интернет-ресурсов. В числе прочего мы рекомендовали провести общую экспертизу и общественное обсуждение предлагаемых и существующих оснований для привлечения СМИ к ответственности. Кроме того, совместно с депутатом Анной Канопацкой от ее имени были подготовлены предложения о внесении изменений в законопроект, которые она зарегистрировала надлежащим образом.

Несмотря на это 19 апреля Палата представителей приняла в первом чтении проект закона в авторской редакции, то есть никакие предложения по его изменению учтены не были.

В начале мая в Минске состоялась встреча рабочей группы Постоянной комиссии Палаты

представителей по правам человека, национальным отношениям и СМИ по доработке ко второму чтению проекта изменений законодательства о средствах массовой информации. Представитель БАЖ также участвовал в этом обсуждении.

14 июня 2018 года поправки были приняты во втором чтении в несколько измененной редакции, а уже 29 июня Советом Республики Палаты представителей законопроект был одобрен.

## Осталось без изменений

Ограничение доступа к интернет-ресурсам по-прежнему будет осуществляться во внесудебном порядке. Министерство информации может по очень большому списку оснований заблокировать любой сайт.

Работа журналистов-фрилансеров остается вне четкого регулирования законодательством.

Отсутствие аккредитации все так же может использоваться как предлог для недопуска журналиста на мероприятие. По-прежнему не предусмотрено обжалование решения об отказе в аккредитации.

Деятельность журналистов иностранных СМИ без аккредитации в нашей стране по-прежнему запрещается.

Сохраняется разрешительный порядок регистрации всех видов СМИ.

## Что поменяется

Законопроект допускает добровольную регистрацию интернет-ресурсов в качестве СМИ (для них вводится термин «сетевые издания»). Они и их сотрудники получат (в несколько урезанном виде) права традиционных СМИ.

Регистрация интернет-ресурсов в качестве СМИ (сетевых изданий) будет проходить в общем для традиционных СМИ порядке. Вместо того чтобы упростить этот порядок или вообще ликвидировать регистрацию печатных СМИ, эту же процедуру будут применять и к сетевым ресурсам. С учетом существующих положений редакцией сможет быть только юридическое лицо, которое располагается в помещениях нежилого фонда, а редактором — гражданин Республики Беларусь с пятилетним стажем работы на руководящих должностях в СМИ и т. д.

В случае непрохождения регистрации в качестве сетевых изданий остальные интернет-ресурсы не будут считаться СМИ и их сотрудники не будут иметь статуса журналиста.

Однако в части обязанностей и ответственности Закон о СМИ планируется распространить как на зарегистрированные «сетевые издания», так и на онлайн-ресурсы, не имеющие такой регистрации.

Прописывается возможность возобновления доступа к интернет-ресурсам, попавшим в «черный список», но только путем обращения в Министерство информации.

В законе будет предусмотрена возможность для обращения в суд с жалобами и на ограничение доступа к сайтам, и на отказ в возобновлении доступа.

Вводится обязательная идентификация лиц, размещающих материалы или комментарии на форумах, в интернет-ресурсах (не только в сетевых изданиях). У Мининформа появится право запрашивать у владельца интернет-ресурсов, поставщика интернет-услуг сведения, необходимые для анализа информации, размещенной на интернет-ресурсе, а также данные, идентифицирующие его владельца.

Фактически предусматривается обязательная модерация интернет-ресурсов (поскольку в случае несоблюдения крайне расплывчатых, не сформулированных четко ограничений возможно применение санкций вплоть до блокировки сайтов).

Закон также запретит распространение продукции иностранных СМИ в Беларуси без наличия разрешения, а редакции телеканалов должны будут обеспечить в еженедельном объеме вещания объем телепередач белорусского (национального) производства не менее 30 процентов.

## Что в итоге

Все вышеперечисленное красноречиво свидетельствует, что государство усиливает контроль за интернетом.

Никаких либеральных изменений не происходит. Свобода выражения мнения и право на доступ и распространение информации остаются в условиях жестоких, непропорциональных ограничений. Более того, существовавшие ранее проблемные аспекты в правовом регулировании деятельности СМИ не только сохраняются, но и распространяются на онлайн-ресурсы.

# Будзем працаваць! За намі праўда!



Зміцер ЛУПАЧ, Глыбокае

**Праца журналіста-фрылансера ў рэгіёнах больш складаная, чым у сталіцы. Асабліва калі ты жывеш у невялікім горадзе і працуеш на незалежныя сродкі масавай інфармацыіі.**

Шмат хто са знаёмых кажа мне, што трэба працаваць асцярожней. А як можна асцярожна працаваць, калі ў цябе на плячы камера, а ў руках мікрафон? Таму і даводзіцца раз на месяц, а то і часцей трапляць у беларускія суды, якія прысуджаюць журналістам вялікія штрафы.

Яшчэ мне раяць знайсці іншую працу. Але што можна знайсці ў невялікім горадзе, дзе ўсе ўсіх ведаюць і дзе ёсць непублічны загад не браць на працу таго ці іншага «засвечанага» чалавека.

Надзею знайсці нармалёвую працу ў дзяржаўных органах я пакінуў яшчэ дзесяць гадоў таму. У 1992 годзе я з чырвоным дыпломам скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці «аграхімія і глебазнаўства», пасля адпрацаваў чатыры гады брыгадзірам паляводчай брыгады. Удзельнічаў у працы выбарчых камісій якраз пры выбарах першага (і пакуль адзінага) кіраўніка краіны, а таксама пры правядзенні рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў. Падчас правядзення апошняга кіраўнік калгаса прымусіў мяне браць аўтобус і везці людзей на датэрміновае галасаванне. Калі ж я адмовіўся, мяне прыстрашылі адказнасцю па месцы працы. Я мусіў тады падпарадкавацца, але з працы потым звольніўся па ўласнаму жаданню.

Жылі мы тады з сям'ёй з прысядзібнага ўчастка, з'ездзіў я таксама некалькі разоў на працу ў Польшчу, дзе агулам адпрацаваў больш за паўгода як электрык і будаўнік. Потым было некалькі спробаў уладкавацца на працу дома, у Беларусі. Мне то казалі, што няма месцаў, то абяцалі патэлефанаваць. Вядома ж, ніхто потым не званіў. Нават вартаўніком на свінакомплекс тагачасны кіраўнік (ён у пачатку 90-х чатыры гады быў маім непасрэдным начальнікам) мяне не ўзяў. Апошняя мая спроба была ўладкавацца ў міжраённы землеўпарадкавальны аддзел. Напачатку кіраўніцы спадабалася мая адукацыя і веданне кампутара… Але наступным ранкам я атрымаў адмову: «Я даведалася, што вы ўваходзілі ў БНФ, а такім, самі разумееце, на дзяржаўнай службе не месца».

Потым яшчэ не раз давядзецца чуць гэта «самі разумееце» ў сваёй далейшай працы ўжо ў якасці журналіста. Працаваць прафесійна



«З праваабаронцам Паўлам Левінавым мы шчыльна супрацоўнічаем»

як журналіст я пачаў з 2009 года, калі стаў галоўным рэдактарам рэкламнай газеты, якую тры незалежныя журналісты стварылі ў Глыбокім. А першы свой артыкул у газеце «Вольнае Глыбокае» напісаў яшчэ ў 2000-м — заклікаў выбаршчыкаў не ісці на датэрміновае галасаванне. За што і атрымаў першую адзнаку сваёй працы — пракурорскае папярэджанне.

Рэкламная газета праіснавала крыху больш за чатыры гады, мы вырашылі спыніць яе выхад, бо мясцовая ўлада рознымі штрафамі, якія чамусьці абавязкова прызначаліся пасля чарговай выбарчай кампаніі, проста не давалі газеце ўстаць на ногі.

З траўня 2015 года я стаў супрацоўнічаць з праграмай навін Белсату «Аб'ектыў». Гэтыя тры гады, я лічу, вельмі змянілі маё жыццё. Найперш на маю працу чамусьці звярнулі ўвагу нашы органы дзяржбяспекі, з якімі я да гэтага не меў ніякіх зносінаў. Вядома, яны цікавіліся мной і раней, але я не звяртаў на іх ніякай увагі, а вось тут прыйшлося.

Дзейнічалі яны спачатку ў сваёй манеры — чужымі рукамі.Спачатку мной занялася падатковая інспекцыя, якая запатрабавала ў мяне дэкларацыю за чатыры гады, потым дайшла справа да суда. Праўда, справу вярнулі на дапрацоўку, але ў гэты час мяне выклікалі ў фінансавую міліцыю. Калі ж я туды прыйшоў, там мяне чакалі чэкісты, якія і сталі на мяне ціснуць, спачатку мінскія, потым свае, мясцовыя. Прапанавалі стаць іх супрацоўнікам. Вядома, я не збіраўся ім быць, але каб хутчэй адтуль выйсці, я сказаў, што падумаю.

На наступнай сустрэчы я сказаў, што супрацоўнічаць не буду, мне хацелася, каб гэта справа ціха забылася. Але, як аказалася, з чэкістамі так не бывае: мне пачалі тонка намякаць, што ў мяне будуць праблемы. Вярбоўка мая скончылася толькі тады, калі я адкрыта распавёў пра гэта ў сродках масавай інфармацыі.

У гэтай справе я вельмі ўдзячны сваім калегам-журналістам, якія падтрымалі мяне ў тую цяжкую хвіліну. Удзячны я таксама і двум Пашам — Паўлу Севярынцу і Паўлу Левінаву, якія працягнулі мне тады руку дапамогі. З праваабаронцам Паўлам Левінавым мы супрацоўнічаем і па сённяшні дзень, за што я яму вельмі ўдзячны.

Бо пасля маёй сустрэчы з паслядоўнікамі Жалезнага Фелікса распачалося маё сталае «супрацоўніцтва» з судамі — спачатку глыбоцкім, а потым і з судамі суседніх раёнаў. Першы штраф па сумнавядомаму артыкулу 22.9 я атрымаў тры гады таму, у тым жа 2015 годзе. Потым паўтара года было зацішша, а пасля траўня 2017 года на маю працу зноў звярнулі ўвагу.



Тэхналогія тут простая: бярэцца нейкі сюжэт і міліцыянты апытваюць яго герояў, паказваючы здымак журналіста: ён здымаў ці не? Людзі ў нас па звычцы праваахоўнікаў або баяцца, або ім давяраюць і, як правіла, журналіста пазнаюць. Складаюцца пратаколы апытання сведкаў (дарэчы, людзей запужваюць адказнасцю за адмову даць паказанні). Потым ужо выклікаюць самога журналіста для складання пратаколу правапарушэння. Прычым гэта часта




суправаджаецца ўсё тым жа «вы ж самі разумееце» — маўляў, не наша гэта ініцыятыва. Суправаджаецца закочваннем вачэй некуды ўверх… Далей застаецца толькі чакаць суда, які ўжо па накатанай схеме выносіць прысуд. Як правіла, гэта штраф, прычым далёка не малы. У рэгіёнах ён можа складаць некалькі месячных заробкаў простага працаўніка.

І вось тут хацелася б адзначыць працу нашых праваабаронцаў, у прыватнасці Паўла Левінава з Віцебска, або проста Пашы, з якім мы з калегай Таццянай Смоткінай, таксама журналісткай-фрылансеркай, супрацоўнічаем у апошні час.

Да Паўла можна звярнуцца практычна ў любы час, і ён заўсёды дапаможа і скаргу скласці, і проста падтрымаць добрай парадай. Прычым зробіць гэта не звысоку, як некаторыя ў нас любяць, маўляў, вы тут дурні, а я самы разумны, а проста па-сяброўску, часта з гумарам.

Пра Пашава пачуццё гумару трэба сказаць асобна. Яно часта дапамагае ў судах, калі ўдалы Пашаў жарт падымае настрой, і ты перастаеш звяртаць увагу, што знаходзішся тут ў якасці правапарушальніка.

За апошні год у мяне адбылося дзесяць судоў за працу без акрэдытацыі. І тры з іх удалося выйграць. Гэта я таксама лічу сваёй перамогай, у якой вялікая заслуга і Паўла Левінава. Бо я не маю пераканання, што наша ўлада стала больш гуманнай і суды сталі падыходзіць да справы больш аб'ектыўна. Проста калі гэта справа стала на канвеер, то і рыхтавацца гэтыя справы сталі абы-як, маўляў, суд усё адно асудзіць. Таму мая парада калегам: трэба чапляцца за кожную дробязь і не ўпускаць хоць маленькі шанец на перамогу.

Вядома, усе прысуды, што выносяцца мне і маім калегам, я не лічу справядлівымі. Яны супярэчаць і нашай Канстытуцыі, і міжнародным дакументам, якія ў свой час падпісала Беларусь. Прыйдзе час, і такія прысуды будуць адменены. Але зараз трэба дзейнічаць у сённяшніх рэаліях і адшукваць хоць малы, але шанец на перамогу.

Менавіта Павел Левінаў пераканаў у свой час мяне ў тым, што скаргі пісаць трэба, нават калі гэта не прыводзіць адразу да жаданага выніку. Зараз дзве мае скаргі знаходзяцца на разглядзе ў Камітэце па правах чалавека ААН. Вялікага спадзявання на тое, што беларуская ўлада прыслухаецца да рэкамендацый і рашэнняў гэтага органа ў мяне няма. Але кропля камень точыць. Думаю, некалі колькасць скаргаў з Беларусі перарасце ў якасць, і наша заканадаўства будзе зменена. Бо немагчыма жыць у XXI стагоддзі па сярэднявечных законах і лагерных паняццях. Таму будзем і надалей змагацца за свае правы на атрыманне і распаўсюд інфармацыі.

Я спадзяюся, што настане такі час, калі ў нашай краіне праваабаронцы і праваахоўнікі будуць дапаўняць адзін аднаго, каб разам абараняць нашы правы, а не абазначаць процілеглыя паняцці, як зараз. І шмат у чым гэта станецца дзякуючы дзейнасці нашых праваабаронцаў і Паўла Левінава ў прыватнасці.

Ёсць такая прымаўка, што дурны вучыцца на сваіх памылках, а разумны — на чужых. Ёсць і больш мяккі яе варыянт: разумны вучыцца на сваіх памылках, мудры — на чужых, а дурань наогул нічому не вучыцца. На жаль, прыходзіцца прызнацца, што я вучыўся менавіта на сваіх памылках. Праўда, у апраўданне хочацца прывесці цытату вядомага амерыканца Зіга Зіглара: «Толькі некаторыя з нас вучацца на памылках іншых людзей, астатнія ж і ёсць тымі іншымі людзьмі».

Я шмат разоў быў на розных семінарах, дзе вучылі не хадзіць у міліцыю, суды і іншыя падобныя ўстановы без позвы. Казалі мне пра гэта праваабаронцы і ў прыватных размовах. Але вось жа тры гады таму не прыслухаўся да іх парадаў — пайшоў у фінансавую міліцыю па тэлефоннаму званку, без позвы. І атрымаў сабе праблемы, з наступствамі якіх прыйшлося доўга змагацца. Таму хацелася б, каб мае калегі ўсё ж прыслухаліся: з афіцыйнымі органамі адносіны павінны быць толькі афіцыйныя. Буду вельмі задаволены, калі гэтыя мае словы хоць некаму дапамогуць.

І апошняе, пра што хочацца сказаць. Я дзякую ўсім сваім калегам-журналістам, праваабаронцам, грамадскім дзеячам за падтрымку, з якой удалося ўсё гэта пераадолець і працягнуць сваю працу. Дзякую таксама за разуменне і падтрымку сваёй сям'і. Усе гэтыя выпрабаванні мяне не зламалі, а зрабілі больш моцным. Нашмат лягчэй працаваць, калі адчуваеш за сабой праўду і падтрымку сяброў.

Таму будзем працаваць! За намі праўда!



# «Мы выйшлі ў інтэрнэт аднымі з першых»

## Анлайн-газеце «Бабруйскі кур’ер» – 20 гадоў

**Як і навошта ўсё пачыналася, чаму цяпер «БК» – гэта толькі інтэрнэт-выданне і чым адрозніваецца праца на інфармацыйным партале сёння і 20 гадоў таму, распавядае галоўны рэдактар «Бабруйскага кур’ера» Анатоль Санаценка.**

***— Чаму «Бабруйскі кур’ер» вырашыў ісці ў інтэрнэт у далёкім ўжо 1998 годзе? Навошта быў патрэбны сайт, калі беларусы толькі знаёміліся з персанальнымі кампутарамі?***

— У той час я працаваў рэдактарам аддзела. Захаджу неяк у нашую «кампутарную», а там сядзіць начальнік тэхнічнага аддзела, галоўны кампутарны геній «БК» Аляксандр Чугуеў, а за ягонай спінай стаіць вядучы журналіст Андрэй Шобін, які і дагэтуль працуе з намі. І не проста так яны там сядзяць-стаяць, а вярстаюць на першую паласу газеты галоўную навіну пра тое, што «Бабруйскі кур’ер» цяпер і ў інтэрнэце. Было гэта ў чэрвені 1998 года.

Адкрываць пры газетах электронные версіі ў той час яшчэ не было агульным трэндам. Інтэрнэт быў вельмі павольным… Але кіраўніцтва «БК» ужо тады разумела важнасць гэтых працэсаў. Так мы сталі аднымі з першых і паказалі шлях іншым.

***— З 2010 года «Бабруйскі кур’ер» выходзіць толькі ў анлайне, зноў жа, як бачна, апярэдзіўшы ўсіх, бо нават буйныя газеты толькі зараз пачалі адмаўляцца ад папяровых версій. Як «БК» прыйшоў да такога рашэння?***

— Улады пастаянна ўмешваліся ў нашую гаспадарчую дзейнасць — забаранялі дырэктарам прадпрыемстваў і буйных «паддзяржаўных» фірмаў мець якія-кольвек гаспадарчыя дачыненні з намі, забаранялі рэкламадаўцам — бабруйскім прадпрыемствам, банкам, установам — размяшчаць у нас рэкламу, праводзіць падпіску на «БК», прадаваць газету ў кіёсках. Гэта адбівался на нашым эканамічным становішчы. Апошнім ударам стала блакаванне рахунку газеты больш чым на чатыры месяцы з патрабаваннем пагасіць усе нашыя запазычанасці.

Апынуўшыся ў такой сітуацыі, праз некаторы час мы прынялі рашэнне «сыйсці» у інтэрнэт. Што для Беларусі як партызанскай краіны цалкам натуральна. Калі пажартаваць на гэты конт.




**АНАТОЛЬ САНАЦЕНКА — журналіст, пісьменнік, галоўны рэдактар газеты «Бабруйскі кур'ер», сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, у тым ліку зборніка «Вяртанне на Радзіму», што выйшаў у 2016 годзе, а таксама перакладаў на беларускую вершаў Гіёма Апалінэра. У траўні бягучага года выйшаў раман Анатоля Санаценкі пра лёс незалежных СМІ ў Беларусі «Невероятные приключения Вацлава Принципа, или — Бобруйск и его жЫвотные».**

***— Як улады адрэагавалі і рэагуюць зараз на працу «БК» у інтэрнэце?***

— Улады рэагуюць на нашую дзейнасць так, як заўсёды рэагавалі, як прызвычаіліся «гістарычна». Нагадаю, што «Бабруйскі кур'ер» быў заснаваны ў 1914 годзе і выходзіў да чэрвеня 1920 года, пакуль гэтыя самыя улады не прыйшлі ў нашыя мясціны і не закрылі яго. Бальшавікі баяліся свабоднай прэсы як чорт ладана.

Памятаю, калі мы пераключыліся на працу ў анлайн-выданні, пачалі рабіць экспрэс-апытанні на вуліцах Бабруйска, мясцовыя ўлады «прывіталі» нас выклікам нарада міліцыі на месца адной з такіх апытанак.

З таго часу «прагрэс рэгрэса» не спыняўся, і нашых журналістаў двойчы незаконна затрымлівалі падчас асвятлення імі масавых мерапрыемстваў — у 2011-м і летась, у 2017 годзе. 26 сакавіка 2017 года падчас працы на «мітынгу недармаедаў» была затрыманая амаль палова рэдакцыі «БК», уключаючы мяне.

Былі за гэтыя гады і суды, і складанне пратаколаў, і іншыя формы стварэння перашкод прафесійнай дзейнасці журналістаў.

***Сайт babruysk.by пачаў працу ў чэрвені 1998 года, калі больш за палову чытачоў нават кампутара яшчэ не мелі дома.***

***— Што, на ваш погляд, змянілася за гэтыя 20 гадоў у працы медыяў у інтэрнэце? Чым адрозніваецца падача інфармацыі ў сетцы ад таго, як гэта выглядала 20 гадоў таму?***

— Гэтыя гады былі часам паступовага ўзмацнення рэпрэсій супраць незалежнай прэсы. Улады пастаянна прыдумваюць нейкія заканадаўчыя ці «панятыйныя» абмежаванні, уводзяць падзаконныя акты, якія пагаршаюць прававое і эканамічнае палажэнне незалежных медыяў.

Да студзеня 1995 года ў Беларусі ўвогуле не было асобнага закона аб СМІ. І усё працавала як трэба, ніхто не пацярпеў, дзяржава не развалілася. А нехта (і мы ведаем гэтага чалавека) здолеў




Гэтак было ў 2003 годзе

на хвалі тагачаснай дэмакратыі і свабоды слова прыйсці да ўлады.

Але, калі ўзнік наш сайт, усё ўжо было ў значнай ступені зарэгулявана і абмежавана. Таму падача інфармацыі заўсёды была з аглядкай на магчымыя рэпрэсіі. І канешне, мы змянялі форму падачы з «газетнай» на «анлайнавую». Як вядома, навіны ў анлайн-выданнях даюцца адразу, праз паўгадзіны пасля падзеі. Сучасны журналіст мусіць не толькі аператыўна напісаць добры тэкст, але і зрабіць фотарэпартаж з месца падзеі, зняць відэа. Усё гэта стварае новыя выклікі. Не толькі прафесійныя, але і псіхалагічныя. Таму што «газетнаму» журналісту трэба перавучвацца, засвойваць новыя веды, тэхналогіі і прынцыпы працы. Раней, гадоў 20–25 таму, наколькі я памятаю, мінімальны месячны план у журналіста складаў 500 друкаваных радкоў (прыкладна адна газетная паласа). Цяпер гэтую «норму» журналіст інтэрнэт-выдання, здараецца, робіць за дзень ці два.

***— Пра што сёння піша «Бабруйскі кур'ер»? Наколькі газета папулярная ў горадзе? Хто сёння чытае «БК»?***

— Мы, як і любое інфармацыйнае выданне, імкнемся асвятліць усе найбольш цікавыя, яркія, значныя падзеі рэгіёна. Гэта і грамадска-палітычнае жыццё, сацыяльная праблематыка, пытанні эканомікі, здарэнні, культура, спорт…

Наша аўдыторыя — гэта жыхары рэгіёна, якія шукаюць незалежныя, непадцэнзурныя навіны, думаюць свабодна. Ці проста — думаюць… Гэта — мясцовая інтэлігенцыя, бізнесмены, адукаваная моладзь, актывісты грамадскіх і палітычных арганізацый.

***— Наколькі проста незалежнаму выданню атрымліваць інфармацыю? У якім палажэнні ў параўнанні з іншымі выданнямі знаходзіцца «БК»?***

— Наша спецыфіка ў тым, што мы не толькі дэ-юрэ, але і дэ-факта незалежнае выданне. Якое не ідзе на кампрамісы ні з сумленнем, ні са свабодай слова… Улады выбудоўваюць сваю палітыку так, што патрабуюць падпарадкавання іх меркаванню. Не заканадаўству, а менавіта меркаванню чыноўніка. Мы з гэтым нязгодныя. Мы лічым, што гэта як раз чыноўнік, які працуе на нашыя падаткі, мусіць прыслухоўвацца да нашага меркавання, да голаса прэсы. З-за гэтай нашай пазіцыі мы, канешне, знаходзімся ў больш складаным становішчы, чым іншыя СМІ рэгіёна. Улады не даюць нам інфармацыю, наклаўшы негалосную забарону на кантакты чыноўнікаў з намі, перашкаджаюць працы з рэкламай, нашым высілкам манетызаваць сайт.


Бобруйскiй КУРЬЕРЪ
Ежедневная газета
1917. 968—252 ОКТЯБРЬ 29 Воскресенье
ЦѢНА № 15 к.
Петроградскiй человѣкъ
Атаманша Метадора
Законъ и право. Авторская страница Анатолия Санотенко
Губернатор и министр — супермилиционеры
Люди и судьбы
Приют как дом родной
Есть такое призвание – права человека защищать
"Витебское дело" по-бобруйски?
Велика вероятность того, что суд отправил за решетку двух ни в чем не повинных подростков
Похищение людей. Бобруйский вариант
27 февраля среда 2008 год
БОБРУЙСКИЙ КУРЬЕР
Читайте в номере:
Крепостные солдаты

## 5 цікавых фактаў пра «Бабруйскі кур'ер»

1. **Самая старая газета Бабруйска («Бабруйскі кур'ер» як брэнд заснаваны ў 1914 годзе).**
2. **Першая інтэрнэт-газета ў Бабруйску і адна з першых у краіне.**
3. **Адзінае ў горадзе выданне, якое мае рубрыку «Правы чалавека».**
4. **«БК» быў вымушаны цалкам сыйсці ў анлайн з-за рэпрэсій уладаў.**
5. **Ёсць інфармацыя, што ў Бабруйскім выканкаме пачынаюць працоўны дзень з чытання «БК».**



Анатоль Санаценка – сябра журы творчага конкурсу БАЖ

***— Нядаўна «Наша Ніва» абвесціла пра поўны пераход у інтэрнэт і адмову ад папяровай версіі. Усё часцей можна пачуць, што класічныя газеты аджываюць сваё. Ці згодны вы? Ці не думалі вярнуцца да выпуска газеты на паперы, або гэта насамрэч учорашні дзень?***

— Я пачынаў працаваць у 1992 годзе як газетны журналіст. Але зараз, пасля некалькіх гадоў працы ў анлайне, бачу ўсе перавагі гэтага фармата. Перш за ўсё інтэрнэт-СМІ больш зручныя чытачам: не трэба некалькі дзён чакаць чарговага нумара газеты, каб даведацца пра нейкую падзею. Таму думак вярнуцца да друкаванага выдання ў мяне няма. І не толькі таму, што ў нашых умовах гэта немагчыма, але у першую чаргу таму, што гэта непатрэбна. Формы падачы навінаў, матэрыялаў змяніліся, і мы да гэтага прызвычаіліся. Што да перспектывы папяровых газет, думаю, гадоў праз 15–20 яны цалкам згубяць сваю актуальнасць як бізнэс-праект.

***— Нядаўна выйшаў Ваш раман пра прыгоды рэдактара незалежнай газеты. Што натхніла Вас менавіта на такі сюжэт? Якія падзеі ляглі ў аснову?***



Віктар Качан, адказны сакратар «Бабруйскага кур'ера»



Уладзімір Шарнікаў, фотакарэспандэнт

— Кніга называецца «Невероятные приключения Вацлава Принципа, или — Бобруйск и его жЫвотные». Яна заснавана на субкультуры постсавецкіх краін, краін СНД. Дакладней, там адбываецца гульня з гэтай нью-культурай — у постмадэрнісцкім духу. Ствараецца «новы міф пра Бабруйск» — як пра горад-татэм… А наогул кніга — гэта гісторыя незалежных беларускіх СМІ за апошнія 25 гадоў. У ёй практычна ўсе падзеі адбываліся або са мной, або з маімі калегамі. Практычна гэта нон-фікшн. Нейкі час я пісаў разрозненыя фельетоны, публікаваў іх у сваіх блогах — на сайце ў «Бабруйскім кур'еры», на сайце БАЖ, на «Медыякрытыцы»… А потым вырашыў іх сабраць і развіць тэму, што ў іх ужо вымалёўвалася, стварыць паўнавартасны раман. Постмадэрнісцкі раман-трансформер-трэвел-комікс-расследаванне аб супрацьстаянні свабоднай асобы і таталітарнай дзяржавы. Герой кнігі — журналіст, выдавец газеты «Перадапошнія навіны». Ён увесь час аказваецца ў драматычных, пацешных, а часцяком камічных сітуацыях, на якія багатае нашае жыццё. Ён — мой двайнік, мая «палепшаная версія». Іншымі словамі, сюжэт гэтай кнігі мне не трэба было выдумляць, герояў — таксама. Само жыццё прыводзіла іх да мяне за руку і пакідала пад маю пісьменніцкую апеку. Само жыццё натхняла мяне на стварэнне менавіта такой рэчы, менавіта ў такім жанры, менавіта ў такой форме… Усё, што было са мной, з намі — журналістамі, рэдактарамі, выдаўцамі, распаўсюджвальнікамі, ды чаго ўжо — з намі ўсімі, з краінай, за апошнія 25 гадоў — легла ў аснову гэтага рамана.



*У верасні 2017-га сябры БАЖ правялі прыборку ў Бабруйскай крэпасці.*
*Фота Ул. Шарнікава*

***— Як Вы лічыце, што і хто мусіць зрабіць, каб тыя абсурдныя гісторыі, што Вы апісваеце ў рамане, так і заставаліся ў кнізе, а не былі сумнавядомымі амаль кожнаму журналісту незалежных выданняў з практыкі?***

— Нашае грамадства знаходзіцца ў працэсе гістарычнай трансфармацыі. У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя яно не зразумела, у чым каштоўнасць дэмакратыі, волі, свабоды слова, свабоды выбару… І — адмовілася ад гэтых каштоўнасцяў, вырашыла вярнуцца да звыклай сацыяльнай мадэлі. А цяпер яму трэба прайсці цяжкім шляхам, вярнуцца да таго ж, што ў нас было 25–27 гадоў таму… Вось пакуль мы гэтай цяжкай дарогай, якую выбралі самі, не пройдзем, мой раман, гісторыі, што ў ім распавядаюцца, на жаль, будуць заставацца актуальнымі. І ў мяне ўжо ёсць асцярога: як бы мне не давялося пісаць працяг рамана, другую частку.






*Віктар Масаловіч, фатограф і відэамайстра, ды журналіст Андрэй Шобін (2012 г.)*

Паколькі ўсё, што ў ім апісана, працягваецца. Здзяйсняецца зваротная эвалюцыя — ад лёгкага маразму да поўнага ідыятызму. І калі я пастаўлю, вобразна кажучы, апошнюю кропку ў гэтай кнізе, нічога не скончылася. Мая «мастацкая замова» у выглядзе сатырычнага рамана не спрацавала.

**Размаўляла Марына Маўчанава**
**Фота з архіваў БК**



# Рэцэпт ідэальнага прэс-тура: ссабойка, медытацыя і героі, якія выдаюць сакрэты

Аксана Бровач.
Фота Аляксандра Зянкова

**Не хачу пакрыўдзіць калег з іншых рэгіёнаў, але лунінецкія прэс-туры – гэта проста свята нейкае! Тут можна добра папрацаваць, адпачыць у самым сэрцы Палесся і пазнаёміцца з яго працавітымі жыхарамі. Як сёлета адбываўся «БАЖ-джэм – маркоўны фрэш», чытайце ў нашым рэпартажы.**

— Эх, так бы заўсёды працаваць! — размаўляем з Яўгенам Скрабцом, маім калегай з Берасця, па дарозе на вакзал у Лунінцы.

— Ага, — кажа. — І адпачыў, і рэпартажы зрабіў. Хай зайздросцяць тыя, хто не паехаў.

Цягнік на Брэст ужо адправіўся, а я думкамі яшчэ ў Лунінцы. Гляджу на рукі: а-ёй, трэба схаваць і нікому не паказваць! Пад пазногцямі, як калісьці казала мая баба, можна рэпу сеяць. Сорам! Пальцы пацямнелі ад калупаня ў градках, але набраліся пахам клубніц. На плячах ляжыць прыемная стомленасць ад учорашніх практыкаванняў з байдарачным вяслом. Тэлефон сварыцца, што яму не хапае памяці, бо яна ўся занята дыктафоннымі запісамі. Звычайна гэта на мяне наводзіць сум: расшыфроўваць размовы — гэта ж найгоршае з усіх магчымых пакаранне для журналіста! Але гэтым разам хочацца як мага хутчэй засесці за працу. Лунінеччына натхняе.

## Легендарная ссабойка

Традыцыйны клубнічны прэс-тур у гэтым годзе атрымаўся крыху спантанным. Хто ж мог прадказаць, што ўжо ў сярэдзіне чэрвеня ягада пойдзе на спад! Звычайна ў гэты час сезон толькі пачынаецца. Цяпер прырода навязала свае ўмовы. Але сябры БАЖ з Лунінца хутка зарыентаваліся і арганізавалі прэс-тур у рэкордна кароткія тэрміны, кажучы словамі дыктараў дзяржаўнага тэлебачання. І мала таго, прыдумалі завезці калег на моркву!



У рэдакцыі «Інформ-прагулкі» у Лунінцы нас сустрэлі, як сваякоў здалёку — цёплымі абдымкамі і ранішняй кавай з печывам.

— Рада вас усіх бачыць на Лунінеччыне! — прывітала ўдзельнікаў прэс-тура Алена Насковіч, кіраўніца Лунінецкай філіі БАЖ. Твары калег заквітнелі ўсмешкамі — от бы так кожны працоўны дзень пачынаўся!

Хутка абмеркавалі планы, распіхалі па заплечніках фірмовыя лунінецкія ссабойкі з салам, зелянінай, маласольнымі агуркамі, хлебам ды печывам з клубнічным джэмам. Усё прыгожа ўпакавана, аздоблена адмысловай наклейкай — падавалася б, дробязь, але гэта тая рызынка, якая робіць лунінецкія прэс-туры асабліва душэўнымі.

— Сорамна прызнавацца, але ў апошні момант пераарыентавала свае планы, бо ўспомніла, што ў Лунінцы даюць ссабойкі са смачным салам! — адразу спавядалася я.

У захапленні ад лунінецкай ссабойкі застаўся і мой берасцейскі калега Яўген.

— Закінуў здымак ссабойкі ў інстаграм, хай тыя, хто не паехалі, зайздросцяць, — кажа.

Але здымак хтосьці сцягнуў, і цяпер ён гуляе па сацсетках. Лунінец, увага! Гэта ж гатовы бізнэс-праект!

Крыху пажартавалі — і за працу. Нас чакала сустрэча з Уладзімірам Навіцкім — лунінецкім маркоўным магнатам і паспяховым фермерам.

## Маркоўным магнатам апынуўся просты паляшук

«Ежедневник» уключыў Уладзіміра Навіцкага ў топ-50 паспяховых бізнэсмэнаў Беларусі. Капітал зрабіў на тым, чым багатая лунінецкая зямля, — прадуктах харчавання. (Лунінец, я настойваю: ёсць жа прыклад! Адкрывайце вытворчасць ссабоек!) Навіцкі — уладальнік сямейнага фермерскага бізнэсу, ён займаецца вырошчваннем морквы, бульбы і іншай гародніны пад брэндам NovoVita. Амаль што ўся прадукцыя ідзе на экспарт.

Пазнаёміць журналістаў з адным з найбуйнейшых фермераў Беларусі было выдатнай ідэяй, адразу адзначылі калегі.

— Так даўно збіралася пра яго напісаць, але ўсё ніяк не атрымоўвалася, — кажа Святлана Гарда, рэдактарка рэгіянальнага партала «Медыя-Палессе».














— Вось і я таксама.

Сустрэчу фермер прызначыў нам у сваім офісе ў Лунінцы. Я б нават сказала, у цэнтральнай сядзібе гаспадаркі. Мы ўвайшлі ў прыгожы двухпавярховы будынак з добрай чырвонай цэглы. Унутры — светла, прыгожа. Ці, як кажуць, дарага-багата: мармур, вахта ўнізе, стылёвыя постэры з морквай на белых сценах, празрыстыя рассоўныя дзверы, прасторная перамоўная з фліпчартам і доўгім сталом. Я рыхтавалася ехаць у поле — фермерская ж гаспадарка — таму і апранулася адпаведна: кеды, джынсы, простая кашуля. Таксама выглядалі і мае калегі. Не ведаю, як яны, а я, пакуль мы чакалі гаспадара, сто разоў пашкадавала, што раніцай схавала ў заплечнік сукенку — яна б тут глядзелася больш гарманічна, чым мой працоўны прыкід.

Але Уладзімір Навіцкі прыйшоў да нас таксама без гальштука — падцягнуты, загарэлы, жвавы палешук.

— Я тут рэдка бываю, офіснымі справамі дачка загадвае, я ў полі працую — гэта маё, — кажа Навіцкі.

Гаспадарка Навіцкага ў асноўным прадае гародніну ў Расію. Штодзённа з Лунінца выязджае да 20 фур з морквай і бульбай. Ён апрацоўвае 1200 гектараў зямлі, і яшчэ адзін гектар займае завод, на якім гародніну мыюць, упакоўваюць і загружаюць у грузавікі.

Інспекцыя палёў і размова пра фермерскі бізнэс у Беларусі зацягнулася на паўдня. Навіцкаму, відавочна, карцела выгаварыцца, пахваліцца сапраўды ідэальнымі, узорна дагледжанымі палямі і паказаць, што і ў нашай краіне можна зарабляць на сельскай гаспадарцы. Такі суразмоўца — вялікая ўдача для журналіста!

## Палескі mindfulness

Пасля добрай працы ня грэх і адпачыць. Неўгамонныя лунінчане прапанавалі нам актыўны адпачынак — сплаў на байдарках па рацэ Ваўчанцы. Неба зацягнула хмарамі, вось-вось пойдзе дождж, але калі гэта нас пужала?






Ваўчанка — рачулка маленькая, але з характарам. Вузкая, пакручастая, месцамі зарослая хмызняком.

— Увага! Наперадзе карчы! — папярэджваю капітана нашай прыгожай чырвонай лодкі Алега Агеева.

— Справімся! — падбазёрвае Алег. — Ну хіба што трохі макушку веткамі пачэшам.

Падчас падарожжа па рацэ мы з Алегам навучыліся грэсці задам наперад і ўваходзіць у паварот па ўнутраным радыусе. А таксама адпрацавалі некалькі складаных манёўраў — байдарачны дрыфт і вытанчанае слізгаценне ўздоўж кустоў. Усім рэкамендую! Сплаў вучыць новым навыкам і каманднай працы!

— Увага! Наперадзе затор! — крычу я, пабачыўшы завалу — дрэва перагарадзіла нам дарогу.



— Справімся! — не губляе ўпэўненасці Алег.

Калі мы ўрэшце рэшт пераадолелі ўсе перашкоды, Ваўчанка над намі змілавалася — далей пацякла роўнай, шырокай стужкай.

— Цікава, а дакуль нам веславаць? — задаю рытарычнае пытанне.

— Не ведаю. Як Прыпяць пабачым — спынімся, — разважае капітан.

Навокал лётаюць стракозы з ультрамарынавымі крылцамі (трэба будзе пагугліць, як называюцца гэтыя прыгожыя сінія штукі!). Пахне ігліцай і вільгаццю лес на беразе. І цішыня. Толькі птушкі шчабечуць.

— Давай паслухаем, — прапаноўвае Алег.

Запавольваемся, слухаем. Прагрэсіўны Захад называе такія практыкаванні mindfulness — медытацыяй усвядомленасці, як можна перавесці. Быць тут і цяпер, нікуды не бегчы, ні пра што не думаць, адчуваць пахі, распазнаваць гукі, расслабляцца і атрымліваць задавальненне. Навукоўцы кажуць, што 10–15 хвілін такога рэлаксу штодзённа павышаюць устойлівасць нервовай сістэмы і псіхікі да стрэса. А нам пашчасціла медытаваць некалькі гадзін!




## Клубнічная каралева на чорным джыпе

Наступны дзень лунінецкага прэстура пачаўся рана. Падсілкаваліся — і за працу: нас ужо чакалі на полі. У клубнічны сезон Лунінеччына прачынаецца на світанку.

— Я ўстаю ў 4 гадзіны раніцы і ў 5 ўжо стабільна на полі, — пацвярджае лунінчанка Валянціна Балотнева, да якой мы прыехалі на градкі.

Яна прадпрымальніца, але ўжо больш за 30 год вырошчвае клубніцы. Вёдры з ягадамі стаяць побач з чорным пазадарожнікам Toyota Land Cruiser Валянціны. Праз паўгадзінкі пад'язджае Nissan Qashqai — дапамагаць маці збіраць клубніцы прыехала і дачка з грудным дзіцём.

— Мы ўсё жыццё працуем, не тое, каб толькі на клубніцах зараблялі, але гэта добры падзаробак, — нашы











бестактоўныя пытанні пра грошы Валянціна ўспрымае абсалютна нармальна: няма чаго саромецца пладоў сваёй працы.

Часу на доўгія размовы няма — трэба завезці ягаду на рынак да 12 гадзін. Раніцай клубніцы можна прадаць па больш выгадным кошце. Таму Валянціна размаўляе з намі, не адрываючыся ад працы. Мы з калегамі дапамагаем ёй збіраць вялікія, прыгожыя ягады. Адно задавальненне: водар кружыць галаву, а справа зацягвае. Нам ужо час ехаць далей, а журналісты разбегліся па полі.

— Хадзем ужо! Мы едзем!

— Іду-іду! — толькі і чуваць.

Канешне ж, ні адзін прэс-тур на Лунінеччыну не абыходзіцца без рынка ў вёсцы Дварэц — клубнічнай сталіцы Беларусі. Тут як заўсёды валтузня і нейкі дзіўны спарадкаваны хаос. І зноў жа так пахне клубніцамі… Грэх не купіць!

— У мінулым годзе каля 30% месцаў на рынку было занята закупнікамі з Расіі. Цяпер ягада туды не ідзе, сам не ведаю чаму, але машын з расійскімі нумарамі практычна няма, — дзеліцца апошнімі навінамі дырэктар рынка Ігар Пракаповіч.

Затарваемся клубніцамі — і дамоў: апрацоўваць матэрыял і марыць пра чарговы прэс-тур на Лунінеччыну. Эх, так бы заўсёды працаваць!

